

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№1 (310) СТУДЗЕНЬ 2022 ГОД

УЛАДА

## ХТО ВЫРАШЫЦЬ ПРАБЛЕМЫ ШУМІЛІНЦАЎ?

**Днямі на Шуміліншчыне працаваў інспектар па Віцебскай вобласці Анатоль Ліневіч.**

Тут ладзілі гэтак званую прамую тэлефонную лінію. Па традыцыі прыём грамадзян у Шуміліне правёў памочнік Прэзідэнта па Віцебскай вобласці Анатоль Ліневіч.

Тэматыка надзённых пытаннях была розная: ад праблемаў экалогіі –да гандалю на вёсцы, а таксама была аказана дапамога ў працаўладкаванні.

Найперш на прамую тэлефонную лінію датэлефанавалася жыхарка Шуміліна Ніна Сцяпанаўна. Праўда, спачатку спадарыня Ніна папрасіла прабачэння і патлумачыла , што па стане здароўя не можа казаць сама, але пра надзённую праблему ад яе асобы раскажа дачка.

Як высветлілася ў ходзе гутаркі, жанчына пражывае ў гарпасёлку Шуміліна па вуліцы Карла Маркса ў прыватным доме. Мае невялікі ўчастак, каля якога размешчаны некалькі магазінаў. Мінулай вясною там распачала працу гандлёвая кропка па продажы будаўнічых матэрыялаў. Жанчына паскардзілася чыноўніку, што ў іх функцыянуе кацельня, а з трубы ідзе дым з непрыемным пахам пасля спальвання адходаў, у прыватнасці ўпаковак ад тавараў. І гэта яшчэ не ўсё. Жыхарка дома мяркуе, што тая труба была ўсталявана з парушэннем тэхналагічных патрабаванняў.

У сваю чаргу інспектар Анатоль Ліневіч "узяў пытанне на кантроль" для больш дэталёвага вывучэння сітуацыі. І запэўніў жанчыну, што спецыялісты разбяруцца, ці адпавядае ўсё гэта нарматыўным актам, у тым ліку ў сферы экалогіі.

Дарэчы, карыстаючыся выпадкам наведвання раёну, памочнік Прэзідэнта правёў рабочую нараду з кіраўніцтвам раёна, азнаёміўся з аператыўнай сітуацый, пацікавіўся эканамічнымі пытаннямі, і безумоўна, закрануў "палітычную сітуацыю ў краіне".

Жыхарка з вёскі Казьяны – Зоя Сяргееўна трапіла на асабісты прыём да памочніка Прэзідэнта. І гэта не выпадкова, бо яе дэлегавалі да чыноўніка аднавяскоўцы з возам мясцовых праблемаў. Жанчына распавяла інспектару, што ў іх населеным пункце няма магазіна, а да якасці работы прадаўца аўтакрамы маюцца наракanні. Да таго ж Зоя Сяргееўна скардзілася і на дрэнную мабільную сувязь, і на адсутнасце праваднога інтэрнэту. Пры усім тым дасталося і работнікам чыгуначначнага вакзала ў Шуміліне. Тут даўно няма ніякай кропкі грамадскага харчавання, каб пасажырам можна было прабавіць час у чаканні транспарту і сёе-тое перакусіць. Усе ўзнятыя пытанні

Памочнік Прэзідэнта перадаручыў кіраўніцтву раёна параіў і вырашыць іх станоўча.

Яшчэ на гарачай лініі разабралі канфліктную сітуацыю.Так,супрацоўнік Шумілінскага лясгаса мясцовы жыхар Аляксей Сяргеевіч атрымаў вытворчую траўму. Медыкі далі яму такую групу інваліднасці, з якой цяпер ён не ў стане працаваць у лясгасе на ранейшай пасадзе. Між іншым, на сённяшні дзень прыдатнай вакансіі ў арганізацыі пакуль што не маецца. Аднак, праўда і тое, што прадстаўнікі лясгаса маюць сваю рацыю, якія таксама прыйшлі на сустрэчу. Са свайго боку яны патлумачылі інспектару, як дактары прыйшлі да высновы, што гэта ўсё ж была не вытворчая траўма. Атрымліваецца так, што ў дадзеным выпадку пытанне ставіцца аб агульным захворванні. Як знайсці выйсце, каб суцэльна дапамагчы былому працаўніку? Грамадзяніну прапанавалі дапамогу ў працаўладкаванні, а служба занятасці ў бліжэйшы час прадаставіць для яго магчымыя вакансіі для працы ў раёне.

Па ўсяму відаць, як Анатоль Ліневіч неаднойчы ўпэўніваўся, што большую частку пытанняў мясцовая ўлада можа вырашыць першапачаткова самастойна (прычым гэта характэрна не толькі для Шумілінскага рэгіёну). Што даюць людзям такія тэлефонныя лініі, на якіх мясцовыя праблемы пераадрасуюцца чыноўнікамі спачатку знізу – наверх, а затым – у адваротным парадку? Ці не з'яўляюцца такія метады працы ўсяго толькі імітацыяй дзейнасці чынавенства, каб "апраўдаць" неабходнасць сваёй пасады як спосабы ўтрымання бюракратычнага апарату? Так, нашы людзі бачаць на прыёмах, што яны могуць звярнуцца са сваёй праблемай да начальніка любога ўзроўню. Грамадзяніна ўважліва выслухаюць, дадуць адказ і….спусцяць пытанне зноў уніз, на мясцовае начальства. Інспектары з высокіх кабінетаў як прыедуць – так і паедуць. А воз праблемаў у сваёй большасці – і дагэтуль там.

**Алесь Шумскі**

***ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY***

ЭКАНОМІКА

## МЕДЫЯННЫ ЗАРОБАК

**Менш за 380 долараў — медыянны заробак на Віцебшчыне застаецца самым нізкім у Беларусі.**

Найперш трэба разабрацца, што такое медыянны заробак простымі словамі. Медыянны заробак – адна з разнавіднасцяў сярэдняга заробку беларусаў.

"Медыяна" перакладаецца з латыні як сярэдзіна. Гэта значыць, што медыянны заробак з'яўляецца сярэдзінай шэрагу ўсіх доследных заробкаў. Як лічыцца медыяны заробак: усе значэння доследных заробкаў выбудоўваюць у шэраг па ўзрастанні. Шэраг палавіняць. Значэнне заробку, які апынуўся пасярэдзіне, – і ёсць медыянны заробак.

Медыянны заробак азначае, што 50% працоўных месцаў аплачваюцца ніжэй гэтага значэння і 50% працоўных месцаў - вышэй, гэта значыць гаворка ідзе аб зарплаце, якую атрымлівае сярэднестатыстычны работнік у Беларусі.

Лічба медыяннай зарплатнай выплаты азначае, што 50% работнікаў у краіне атрымліваюць менш, а 50% – больш за яе. З гэтага зразумела, чаму многія спецыялісты менавіта і называюць медыянную заработную плату "сапраўднай сярэдняй заработнай платай" – яна належыць сярэднестатыстычнаму грамадзяніну нашай краіны і адлюстроўвае эканамічныя рэаліі значна лепш, чым сярэднеарыфметычны заробак.

Надоечы была апублікавана статыстычная інфармацыя аб памеры медыянай заработнай платы ў Віцебскай вобласці. Даведаліся, хто больш за ўсіх атрымлівае ў рэгіёне.

Гэты від статыстыкі абнаўляецца два разы на год, публікуюцца дадзеныя за травень і лістапад. Паводле апошніх афіцыйных звестак медыянны заробак па вобласці ў лістападзе 2021 года склаў 969 рублёў, што па курсе на канец месяца не перавышае 380 долараў.

Гэта самы нізкі ўзровень медыянай заработнай платы па краіне, перадапошняе месца займае Магілёўская вобласць з 972 рублямі.

Самы высокі медыяны заробак у рэгіёне ў IT-нікаў, ён складае 2 411 рублёў 40 капеек (крыху менш за 950 долараў). Традыцыйна для Віцебшчыны высокія заробкі на прадпрыемствах хімічнай галіны — 1555 рублёў 30 капеек (крыху менш за 610 долараў).

У дзяржслужачых Віцебскай вобласці медыяны заробак складае 1194 рублі 20 капеек, такім чынам «па пяцьсот» не выходзіць нават у паловы з чыноўнікаў.

Медыкі Віцебшчыны ў сярэднім зарабляюць 975 рублёў 90 капеек (крыху больш за 380 долараў). У настаўнікаў заробку яшчэ ніжэй — 756 рублёў 60 капеек (295 долараў). Крыху больш, чым у адукацыі, модна зарабіць у сельскай гаспадарцы — там медыянны заробак у лістападзе склаў 764 рублі 50 капеек (299 долараў).

Самы нізкі заробак згодна з афіцыйнай статыстыкай у рэгіёне атрымліваюць работнікі галіны, якая аказвае паслугі па часовым пражыванні і харчаванні — 603 рублі 70 капеек (усяго 236 долараў).

Паказчык медыянай зарплаты дзеліць работнікаў на дзве часткі — палова з іх атрымлівае заработную плату ніжэй за медыяна, а іншая палова — вышэй за гэты паказчык.

**Ян Вайтовіч**

СПОРТ

## УЗЛЁТ І НАДЗЕІ ГАННЫ СОЛЫ

**Бадай што, узлёт адбыўся з Кубка свету ў нямецкім Аберхофе, дзе беларуская біятланістка Ганна Сола з Шуміліншчыны заняла другое месца ў спрынтарскай гонцы на 7,5 км на пятым этапе. На гэтых спаборніцтвах яна пераадолела дыстанцыю працягласцю 7,5 км беларуска за 23 мін. 37,2 сек. дапусціўшы два промахі на двух агнявых рубяжах.**

Яшчэ адна беларуская спартсменка Дзінара Алімбекава зноў спынілася за крок ад п'едэстала гонару, заняўшы чацвёртае месца з вынікам 23 мін. 52,7 сек. пры двух недакладных стрэлах. Праўда, на далейшых этапах вынікі былі болей, чым сціплыя.

На наступным сёмым этапе Кубка свету па біятлоне, які праходзіў у італьянскім Антхольцы, адбылася жаночая эстафета чатыры па шэсць кіламетраў. Перамогу адсвяткавала зборная Нарвегіі, а наша каманда заняла ў падагульняючым пратаколе толькі 13-ю пазіцыю. Фінішэрка беларускай каманды Ганна Сола прайшла свой этап роўна і па стральбе (0+4), і па хуткасці (пяты вынік). Але адставанне, калі яна адправілася на дыстанцыю, было занадта вялікае. І адзінае, што змагла зрабіць ураджэнка Шумілінскага раёна, – гэта падняць нашу зборную на 13-е месца.

Аналізуючы вывады з папярэдніх дасягненняў, можна ацэніць шанцы нашых біятланістаў на Алімпіядзе.

Медальныя надзеі ў першую чаргу, верагодна звязаны з біятлоннай зборнай, якую складуць Дзінара Алімбекава, Ганна Сола, Ірына Лешчанка, Ірына Кручынкіна, Алена Кручынкіна і інш.

У гэтым выпадку нашых шумілінскіх

***(працяг на стар. 2)***

СПОРТ

(пачатак на стр. 1)

заўзятараў найперш цікавіць кар'ера Ганны Солы, якой таксама цяжка даўся пераход з юніёрскага спорту ў дарослы. На нейкім этапе яна нават вырашыла, што называецца, адставіць ружжо ў кут. Паводле інтэрв'ю Ганны выданню“СБ. Беларусь сёння”: «хацелася адключыцца, каб пра мяне забыліся і проста не чапалі. Думала аб тым, што трэба адыходзіць ад спорту, займацца чымсьці іншым”, – успамінала дзяўчына. Аднак вярнулася назад. Ды так павярнулася, што зараз разам з Алімбекавай з'яўляецца адной з нашых галоўных алімпійскіх спадзяванняў. На чэмпіянаце свету - 2021 ураджэнка Шумілiншчыны выйграла бронзу ў спрынце, і гэты медаль стаў для нашай каманды адзіным на тым топ-турніры. Затым набыла поспехі і на этапах Кубка свету. У мінулым сезоне яна чатыры разы паднялася на подыум на этапах КС у асабістых відах праграмы і эстафетах.

І ў бягучым сезоне Ганна Сола працягвала ў тым жа духу. Для таго каб гэта зразумець, дастаткова зазірнуць у пратаколы. Другі этап у Эстэрсундзе - бронза ў спрынце і срэбра ў эстафеце, Хохфільцэн – перамога ў спрынце і срэбра ў гонцы пераследу, Оберхоф – другое месца ў спрынце і змешанай эстафеце. Да таго ж і ў гонцы пераследу Сола даказала, што ўмее выдатна выступаць і адыгрываць адставанне, нават будучы не ў лепшых кандыцыях (23 пазіцыі ў параўнанні са спрынтам). Усё гэта натхняе пераможны лад. Цалкам верагодна, што на Алімпійскіх гульнях галоўная стаўка Солы, мусіць, будзе з ухілам на яе “каронны спрынт”. Аднак было заўважана, што і ў іншых відах праграмы яна здольная на шматлікае.

**Алесь Прыбярэжны**

КУЛЬТУРА

# ПЕРАМОЖНАЯ ФЛЕЙТА

**Шумілінцам, якія цікавяцца мастацтвам, ўжо вядома, што вучаніца пятага класа па класу флейты Шумілінскай дзіцячай школы мастацтваў Віталія Белагалова другі год запар атрымлівае перамогу ў абласным конкурсе вакалістаў і інструменталістаў «Семицветик».**

Дарэчы, свой Дыплом лаўрэата І ступені і прыемныя сувеніры вучаніца Віталія атрымала якраз напярэдадні Новага 2022 года. Не сакрэт, што гэта прыемная навіна вельмі парадавала яе куратараў – настаўніцу Іну Ворса і канцэртмайстра Ганну Пахоменка.

А сама Віталія распавяла для аматараў музыкі, што для конкурснай праграмы яны з Інай Міхайлаўнай выбралі творы Валерыя Сапарава Alla Tango і санату «Арпеджыоне» Франца Шуберта. Відавочна, і вучаніца, і настаўніца нямала пастараліся, каб выкананне твораў прагучала бездакорна.

Пры гэтым варта дадаць, што цікавае адценне флейце надалі кастаньеты, на якіх іграла Наталля Шабайлава.

**М. Амбросаў**

СУВЯЗЬ

# ТРАФІК ВЫРАС УДВАЯ

**На сённяшні дзень насельнікі Шумілінскага раёна сталі ў два разы болей карыстацца мабільным інтэрнэтам.**

З году ў год працягвае развіваццё сеткі 4G у Віцебскай вобласці. Але толькі за апошні год базавых станцый на Віцебшчыне пабольшала ў два разы.

Пры гэтым дзякуючы такім удасканальванням насельнікі вобласці часцей карыстаюцца мабільным інтэрнэтам. Да прыкладу, у Шумілінскім раёне ўсяго за год, з лістапада 2020 да лістапада 2021 гг., мабільны трафік у 4G аднаго з аператараў мабільнай сувязі вырас на 114%.

Цяпер мясцовыя базавыя станцыі працуюць на частаце 800 Мгц. Гэта азначае мець анлайн у самых аддаленых вёсачках, таксама быць на сувязі на дарогах за горадам, карыстацца 4G усярэдзіне самых шчыльных забудоў.

Прынамсі, Шумілінскі раён закранулі істотныя паляпшэнні. Тут базавых станцый стала болей як у 5,5 разоў. На 83% павялічылася і зона 4G-пакрыцця – зараз высакахуткасны інтэрнэт даступны аж на 97,4% тэрыторыі раёна.

І гэта яшчэ не ўсё – мабільны аператар азначыў самую «інтэрнэтную» кропку раёна. Як высветлілася, найбольш «пампуюць» у самім Шуміліне на вуліцы Ленінскай. Менавіта тут і знаходзіцца базавая станцыя, на якую прыпадае рэкордная колькасць трафіку.

Усяго ў 2021 годзе на тэрыторыі Віцебшчыны пашырэнне сеткі 4G толькі для абанентаў аднаго з аператараў праведзена за кошт запуску ў эфір каля 280 новых базавых станцый.

**Ян Вайтовіч**

ЗНАХОДКА

# ТВОР НАРАДЗІЎСЯ З ГІЛЬЗЫ

**Гільза, знойдзеная пад гарпасёлкам Обаль Шумілінскага раёна, натхніла на стварэнне паэтычнага твора.**

Гэта было ў жніўні 1985-га, калі віцябляне Тацццяна і Уладзімір Дашчанка паехалі дапамагаць па агародзе маме Тацццяны Яўгенаўны – Марыі Іванаўне Шаршнёвай. Жыла яна ў вёсцы Казлова, якая зараз уваходзіць у склад гарпасёлка. Муж і жонка вырашылі падсыпаць торф на градкі і пайшлі за прыродным угнаеннем у бліжэйшы забалочаны лес, дзе звычайна збіралі журавіны.

І вось штык рыдлёўкі выбернуў чарговую партыю чорнай масы, з якой выпала гільза. Калі ачысцілі знаходку, аказалася, што яна не пустацелая. У ёй знаходзіліся фрагменты лістка паперы з надрукаванай друкарскім спосабам малітвай.

Некалькі дзесяцігоддзяў знаходка праляжала ў серванце. Пяць гадоў таму на сямейнай урачыстасці Таццяна і Уладзімір Дашчанка пазнаёміліся з краязнаўцам Леанідам Ціханавым. Даведаліся, што ён стварыў хатні музей, у якім ёсць раздзел, прысвечаны Вялікай Айчыннай вайне. Муж і жонка вырашылі перадаць рэліквію калекцыянеру.

З дапамогай інтэрнэту ўдалося ўстанавіць, што ў гільзе знаходзілася 3-я малітва святога Макарыя Вялікага: «Да цябе, Уладыка Чалавекалюбчы, ад сну ўстаўшы звяртаюся і на справы Твае дзейнічаю міласэрнасцю Тваёй і малюся Табе…»

Уражаны гісторыяй новага экспаната, Леанід Ціханаў напісаў верш. У ім расказваецца, як маці праводзіла сына на вайну і ўклала ў руку кавалак паперы. Як салдат перад боем чытаў малітву моўчкі, толькі вачыма. Як шчыльна згарнуў матчыны абярэг і схаваў у гільзу, зачыніўшы яе хваёвым коркам. Хто быў той салдат, ці загінуў ён ці гільза з малітвай выпала з кішэні гімнасцёркі ў жорсткім баі, невядома.

Гарадскі пасёлак Обаль быў вызвалены 26 чэрвеня 1944-га падчас наступальнай аперацыі "Баграціён" злучэннямі 6-й гвардзейскай арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту. Асноўны атакуючы ўдар выбраляў 334-ы стралковы полк 47-й стралковай дывізіі. Магчыма, воін гэтага падраздзялення быў уладальнікам гільзы з малітвай.

**vitvesti.by**

*Пераклад з расейскай рэдактара*

ЗДАРЭННІ

# ШКВАЛЬНЫЯ ВЕТРЫ

**Стыхія моцных ветраў са шматлікімі наступствамі пракацілася па Віцебскай вобласці. На шчасце, пацярпелых няма, а на Шумілiншчыне відавочных разбурэнняў пабудоў пакуль не зафіксавана, апроч паваленых дрэваў у лесе і кароткачасовых адключэннях электрыкі ў некаторых вёсках.**

Паводле МНС на 15-га студзеня ў выніку парываў ветру (да 24 м/с) па Віцебскай вобласці пацярпела 39 населеных пунктаў. У гэтых пунктах пашкоджаны дахі сямі прыватных жылых дамоў, 38 шматкватэрных дамоў, 4 складскія будынкі, 5 вытворчых будынкаў, 12 будынкаў аб’ектаў аддзелаў адукацыі, тры аб’екты сацкультбыту, 28 будынкаў сельгаспрызначэння, дзве ТП, пашкоджаны адзін аўтамабіль

Найбольшы ўдар стыхіі па лясных насаджэннях прыйшоўся на Шумілінскі, Талачынскі і Гарадоцкі лягсасы.

У Віцебскім ДВЛГА падлічылі: усяго за два дні на тэрыторыі вобласці пацярпелі ад стыхіі больш за 876 гектараў лясных насаджэнняў. Правядзенне суцэльных санітарных высечак патрабуецца на 102 гектарах лесу, выбарачныя – на 217 гектарах. Лягсасы правялі абследаванне і выяўленне пашкоджаных насаджэнняў, у тым ліку з выкарыстаннем квадракоптараў. Але недзе гэта складана зрабіць з-за моцнай завеі.

У паўночным рэгіёне больш за ўсё ад стыхіі дасталася лясным угоддзям Шумілінскага раёна. Ляснічы Мікалаеўскага лясніцтва Шумілінскага лягсаса Сяргей Сцяпанец таксама апынуўся ў лесе падчас шторму і стаў сведкам ветравалу:

– Спачатку ўпала адно дрэва, потым другое, а там адразу шмат, - так апісвае буру спецыяліст. – Усё ламалася, трашчала і гуло. “У мінулым годзе таксама быў вялікі ветравал. Цяпер, на шчасце, адзінкавыя выпадкі, калі з-за паваленых дрэў на дарогах мясцовага значэння людзі не маглі праехаць, літаральна на працягу дзесяці хвілін іх вызвалілі…”

**Сяржук Крупскі**

*па матэрыялах МНС*

КРЫМІНАЛ

# НЕБЯСПЕЧНЫ НАРКОТЫК

**Сенсацыйная навіна пра тое, што дзевяцікласнік з Шуміліна затрыманы з наркотыкамі, устрывожыла шумілінскі люд. Нямала бацькоў нашага ціхага мястэчка былі занепакоены тым здарэннем, а хто дасць гарантыю, што іх дзяцей выпадкова не ўцягнуць у брудную справу?**

Выходзіць так, што не на ўсіх падлеткаў дейнічаюць прафілактычныя гутарак у школах, а бацькі – не ўсе ладзяць кантроль за сваімі дзяцьмі.

Шумілінскі хлопчык здзейсніў злачынства на канікулах. Замест таго, каб бавіць вольны цікавымі мерапрыемствамі, ён банальна забірае наркату са сховішча, фасуе на дозы і адпраўляецца “рабіць закладкі”. Магчыма, такім спосабам хацеў падзарабіць “халяўных грошай”?

Як распавёў шумілінскім міліцыянерам сам падлетак, прапанова “зрабіць закладкі” яму паступіла ў тэлеграм-канале. У першы дзень новага года дзевяцікласнік наведаў тайнік непадалёк ад Віцебска, адкуль і забраў больш за дзвесце грамаў альфа-PVP – а гэты наркотык адносіцца да асабліва небяспечных псіхатропных рэчываў. Дома падлетак расфасаваў частку наркатычных сродкаў у пакеты, на наступны дзень паехаў у Віцебск, каб зрабіць закладкі. Тут і быў затрыманы аператыўнікамі наркакантролю. Са знойдзеных тайнікоў было канфіскавана 18 пакункаў з небяспечным псіхатропным рэчывам. Паводле старшага оперупаўнаважаны групы па наркакантролі РАУС Іллі Савінава, “пры сабе хлопец меў 120 грамаў альфа-PVP, а па яго месцы жыхарства падчас вобыску было знойдзена яшчэ 100 грамаў. Таксама канфіскаваны электронныя вагі і фасовачныя пакеты”.

За незаконны абарот наркотыкаў з мэтай збыту на хлопца заведзена крымінальная справа. Яму пагражае пазбаўленне волі ад 6 да 12 гадоў са штрафам або без яго. Падлетак затрыманы і знаходзіцца ў ізалятары часовага затрымання ў Віцебску».

**Сяржук Крупскі**

*па матэрыялах МУС*

ПРАЕКТ

# ІГАР БАРЫСАЎ: ПРАЕКТ КАНСТЫТУЦЫІ НЕ АДПАВЯДАЕ ЧАКАННЯМ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

**Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), палітолаг Ігар Барысаў выказаўся адносна праекта Канстытуцыі, які прапаноўваецца вынесці на рэферэндум.**




***Ігар, як пракаментуеце праект, які быў апублікаваны дзяржаўнымі СМІ?***

Відавочна, што фраза Аляксандра Лукашэнкі «я свой народ за цывілізаваным светам не павяду» у гэтым праекце Канстытуцыі набывае сапраўдную моц. Адзін з беларускіх прапагандыстаў падкрэсліў, што мы перастаем капіраваць іншыя практыкі арганізацыі грамадства і ствараем сваю. У гэтай сувязі я адразу ўзгадваю Муамара Кадафі з яго непаўторнай джамахірыяй. Такога палітычнага ўладкавання не было і наўрад ці будзе яшчэ хоць у адной з краін свету. Тое, што ствралася лівійскім дыктатарам як нешта арыгінальнае — атрымалася вычвурным і эксцэнтрычным. Акрамя таго, у беларускім праекце Канстытуцыі знаходзяцца агульныя рысы з кітайскай мелітакратыяй. Там таксама ёсць Усекітайскі сход народных прадстаўнікоў, які мае заканадаўчыя функцыі, збіраецца раз на год і г.д. Так што назваць праект беларускай Канстытуцыі арыгінальным можна, аднак каб быць аб'ектыўным варта акрэсліць яго, як эксцэнтрычна арыгінальным.

***Якія змены прапануе зрабіць улада?***

У першую чаргу зрабіць усё магчымае, каб выключыць апанентаў з актыўнай фазы любой выбарчай кампаніі, а таксама зрабіць меншую колькасць выбарчых кампаній, праз стварэнне адзінага дня галасавання па выбарах у мясцовыя Саветы дэпутатаў і Палату прадстаўнікоў з прадаўжэннем паўнамоцтваў дзеючых дэпутатаў на 5 год. У ідэале ідэя адзінага дня галасавання добрая, аднак яна кампенсуецца эксцэнтрычнай арыгінальнасцю — выбары павінны адбывацца ў апошні тыдзень лютага. Для тых, хто займаецца выбарчымі кампаніямі не адзін год зразумела, што ніхто ў маразы не будзе займацца зборам подпісаў ці агітацыяй на вуліцы. Такім чынам гасіцца любая вулічная актыўнасць ў часе выбарчай кампаніі. Прымальнымі чысламі для адзінага дня галасавання з'яўляюцца другія, трэція, ці чацвёртыя выхадныя верасня.

Прапануюцца ўзроставыя абмежаванні да кандыдата на пасаду Прэзідэнта. Прапануецца, што з 40 год можна ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах. На маю думку, гэтай нормай адсякаюцца маладыя палітычныя лідары, якія з'явіліся ў часе мінулай выбарчай кампаніі.

Акрамя таго, прапануецца абмежаванне на ўдзел у выбарах для тых, хто пэўны час жыў у іншай краіне — кандыдат на пасаду Прэзідэнта павінен пражываць на тэрыторыі Беларусі цягам апошніх 20 год. Гэта фактычна накіравана на тых, хто вымушаны быў з'ехаць з Беларусі за апошнія 1,5 гады.

Таксама прапануецца норма, аб спыненні грамадзянства. Фактычна яна дае права любога свайго палітычнага апанента пазбавіць беларускага грамадзянства і зараз яна патэнцыйна можа быць накіраваная супраць дзеячаў беларускай эміграцыі, якія стварылі свае палітычныя цэнтры. Такую норму практыкаваў нямецкі Трэці Рэйх. Варта ўзгадаць, што сацыял-дэмакрат Вілі Брант быў пазбаўлены грамадзянства, аднак пасля краху нацыскай Германіі ён здолеў стаць яе канцлерам…

***Што дзяржава гарантуе працоўным?***

У новай рэдакцыі Канстытуцыі яна ўжо не дае права прымаць удзел працоўным у кіраванні прадпрыемствамі і ўстановамі, як гэта было раней. Хоць гэта на практыцы і не выконвалася, аднак такая норма існавала.

Таксама ўводзіцца норма аб сацыяльнай адказнасці, ўнясенні пасільнага ўклада ў развіццё грамадства і дзяржавы. Гэта фактычная легалізацыя дэкрэта аб дармаедах.

Ёсць яшчэ адзін дадатак, дзе бацькі абавязаны рыхтаваць дзяцей да грамадска карыснай працы. Гэта шырокая фармулёўка. Пакуль не зразумела, што яна мае на ўвазе, але зразумела, што яна стане фармальнай нагодай, каб прыцягваць да адказнасці бацькоў за дзеянні дзяцей.

***Ці ўзмацняецца роля ідэалогіі?***

Асобным пунктам прапісваецца, што дзяржава забяспечвае захаванне гістарычнай праўды і памяці аб геаічнай перамозе беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У Беларусі гэты пункт выглядае крыху дзіўнаватым, бо Беларусь была ўцягнута ў Другую сусветную вайну ў 1939 г., а ВАВ гэта ўсяго толькі яе частка. Таму бачым, што гэта робіцца невыпадкова, а каб праваахоўным структурам развязаць больш рукі і пераследваць за гістарычныя даследванні, якія не адпавядаюць агульнай ідэалагічнай лініі. Фактычна пад гэта можна падвесці забарону на ўжыванне бел-чырвона-белага сцяга, бо раней афіцыйная прапаганда ўжо лямантавала, што нацыянальны сцяг выкарыстоўвалі калабарацыяністы, хоць доказаў гэтаму няма.

Ёсць таксама пункт, што праяўленне патрыятызма, захаванне гістарычнай памяці аб геаічным мінулым беларускага народа з'яўляюцца доўгам кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь. Вось у гэтым пункце, хутчэй за ўсё, будзе давацца ацэнка той ці іншай гістарычнай постаці. Напрыклад Касцюшка дрэнны, а вось Суvotaраў добры і г.д. Калі нешта спрабуеш даказаць адваротнае — не праяўляеш патрыятызму.

***Так а хоць што-небудзь станоўчае ў новым праекце Канстытуцыі ёсць?***

Я бы сказаў, не станоўчае, а нейтральнае, бо ўсе станоўчыя прапановы стануць пры гэтай уладзе праз правапрымяняльную практыку ў лепшым выпадку нейтральнымі.

Калі казаць з пазіцыі сацыял-дэмакратаў, то скасоўваецца тлумачэнне існуючай адміністрацыйна-тэрытарыяльнага ўладкавання дзяржавы. Выкрэсліваецца, што тэрыторыя дзеліцца на раёны, гарады, вобласці і іншыя адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі. Гэта дае магчымасць правесці рэформу і прыняць новы закон аб адміністрацыйна-тэрытарыяльным абладкаванні. Мы маем такую канцэпцыю…

Уводзіцца магчымасць падаваць у суд на рашэнне і дзеянні (бяздзеянні) дзяржаўных органаў і службовых асоб, якія парушаюць правы і свабоды. Раней такога не было. Мы маем гатовы законапраект….

Прэзідэнцкія паўнамоцтвы абмяжоўваюцца двума тэрмінамі, але ёсць адна асаблівасць — Прэзідэнт можа быць старшынёй Усебеларускага народнага сходу адначасова, а тэрміны прэзідэнцкіх паўнамоцтваў могуць адлічваца наноў для таго, хто зараз займае гэтую пасаду. Гэтаксама старшыня Усебеларускага народнага сходу (будучы былым Прэзідэнтам) пажыццёва ўваходзіць у Савет Рэспублікі. Гэта дае магчымасць аднаму чалавеку сядзець на некалькіх крэслах адначасова, што канцэнтруе ў яго руках дадатковыя паўнамоцтвы….

Даюцца некаторыя нейтральныя карэкціроўкі існуючых раней пунктаў, але яны з'яўляюцца касметычнымі.

***Што можна сказаць падсумоўваючы?***

Тое, што ні старая, ні новая Канстытуцыя не аблягчаюць жыццё грамадзян. Людзі чакалі зменаў, а атрымаюць рэакцыйныя змены з яшчэ большай канцэнтрацыяй улады. Тым больш ведаючы, што «не да законаў» зараз — «не да законаў» будзе і пасля і ўсё гэта выглядае як унутраныя правілы пераразмеркавання ўлады ўнутры наменклатуры, аднак з гэтых працэсаў (стварэнне альтарнатыўных праектаў, шырокае абмеркаванне існуючага, вылучэнне ў камісіі і назіранне, свабодны і справядлівы падлік галасоў) выключаны грамадзяне і палітычныя партыі.

Усебеларускі народны сход — гэта стварэнне нейкага абсалюту, куды прапануецца загнаць прадстаўнікоў усіх трох галін улады і мясцовай вертыкалі ўлады. У ідэале ўсе гэтыя тры галіны ўлады павінны ураўнаважваць адна адну і стрымліваць, а не згладжваць супярэчнасці, бо калі іх не будзе — не будзе ні дынамікі, ні прагрэсу.

Немагчыма адказаць на пытанне — што ж гэта такое за Усебеларускі народны сход, якая гэта галіна ўлады? Трэцяя палата парламенту, ці абсалютная ўлада бюракратыі, бо нехта паза сістэмай патрапіць дэлегатам не здолее, бо відавочна, што выбары дэлегатаў будуць ускоснымі.

Адным словам нічога добрага нас у гэтай рэдакцыі Канстытуцыі не чакае. Уплываць на яе прыняцце ніхто не можа, бо пад выглядам контррэвалюцыі ўлада прасоўвае патрэбныя для яе змены.

З праектам канстытуцыйных пераўтварэнняў з пазіцыі БСДП можна азнаёміцца па спасылцы.

*(скарочана)*

**Прэс-служба БСДП**
**www.bsdp.org**

ЛІКВІДАЦЫЯ

# ВЫЖЖЕННАЯ ЗЕМЛЯ

**По состоянию на 1 января 2022 года было известно о 309 белорусских некоммерческих организациях, которых коснулась принудительная ликвидация.**

**Владимир МАКЕЙ, министр иностранных дел Республики Беларусь:**

— Кто-то говорит, что у нас диктатура, но, поверьте, мы заинтересованы в том, чтобы существовало альтернативное мнение. Более того, мы заинтересованы в том, чтобы и гражданское общество смелее высказывало какие-то свои инициативы и альтернативные точки зрения. Общеизвестно, что в споре рождается истина...

У нас готовы слушать и слышать альтернативное мнение гражданского общества. Но понятно, что это мнение должно быть конструктивным и нацеленным на сохранение государственности Беларуси, поступательное развитие государства и общества.

**БЛИЦ-КОММЕНТАРИЙ**

Министр иностранных дел Владимир Макей взывает: «Поверьте!» Но он не священник и не проповедник, а мы не адепты его секты, чтобы просто верить словам. Мы должны апеллировать к фактам.

А факты свидетельствуют об обратном.

Вся вторая половина минувшего года в Беларуси прошла под знаком ликвидации структур гражданского общества. Причем показательно, что еще 30 июля 2021 года Александр Лукашенко заявлял о выявлении 185 «деструктивных структур». Но в итоге план по ликвидации НГО был не только выполнен, но и существенно перевыполнен.

По состоянию на 1 января 2022 года было известно о 309 белорусских некоммерческих организациях, которых коснулась принудительная ликвидация. В маховик репрессий попали НГО вне зависимости от направления и характера деятельности. Это и культурные организации, и просветительские, и правозащитные, и экологические, и исследовательские, и по защите прав потребителей, и социальные, и другие.

Какой «деструктив» несло «Таварыства беларускай мовы», которое занималось пропагандой белорусского языка?

Что крамольного было в деятельности Союза белорусских писателей, Белорусской ассоциации журналистов, Университета имени Нила Гилевича, «Таварыства беларускай школы», Гродненского детского хосписа, курсов белорусского языка «МоваНанова» и многих-многих других?.. Они что, пропагандировали войну, раздавали наркотики, нелегально обучали взрывному делу? Они работали на благо белорусов, заполняя те ниши, до которых у государства не доходили руки. В этих организациях объединялись люди без всякого приказа, по воле души. Государство посчитало опасным именно это?

Свою пламенную речь с призывом «Поверьте!» министр Макей адресовал непонятной делегации общественных активистов из Литвы. Однако он

***(працяг на стар. 4)***

ЛІКВІДАЦЫЯ

*(пачатак на стар. 3)*

наверняка забыл упомянуть, что в числе прочих в Беларуси были ликвидированы и культурно-историко-просветительская городская общественная организация «Объединение литовцев «Витис» в Минске, и Лидское общественное объединение литовцев «РУТА». Причем ни к политике, ни к протестам эти организации отношения не имели, они просто пытались помочь белорусским литовцам сохранять связь со своими корнями. И это крамола? Это «деструктивная деятельность»?

Наверняка не рассказал Владимир Макей своим гостям и про то, что многие общественные организации в Беларуси теперь закрываются сами. Потому что политика государства сформулирована предельно понятно: «Не высовываться!» Государство создает условия только для тех, кто работает под его крылом и кормится с его руки. Остальные в сегодняшней Беларуси фактически причислены к врагам.

«Смелее! — говорит Макей. — Государство заинтересовано в инициативах».

При этом в Уголовном кодексе для особо инициативных уже заготовлено наказание за действия от имени незарегистрированной организации.

«Смелее! — говорит Макей. — Государство заинтересовано в альтернативной точке зрения».

При этом независимые СМИ разгромлены, объявлены экстремистскими, сайты заблокированы, многие журналисты в тюрьме либо в эмиграции.

После президентских выборов государство применило к негосударственному сектору тактику выжженной земли. А теперь министр заявляет: «Общеизвестно, что в споре рождается истина». О чем это он? О какой Беларуси? О спорах между Азарёнком и Гигиным?

Если государство заинтересовано в дискуссиях по важным вопросам, почему мы не видим этого в государственных СМИ — на ТВ, в газетах, на радио? На экранах, в эфире, на страницах изданий одни и те же надоевшие лица. Они вбивают в головы электората одни и те же демагогические мысли. Никакой полемики, никакого разномыслия, никаких свежих взглядов на происходящие события и на будущее страны.

Если в споре рождается истина, то почему к разработке проекта новой Конституции не были подключены оппоненты действующей власти? Почему дискуссионные площадки превратились в междусобойчик под надзором идеологов?

Выпустите из тюрем тех, кто не побоялся выступить против фальсификации результатов голосования на президентских выборах. Дайте гарантию безнаказанного возвращения из-за границы многих тысяч белорусов, которые из-за жутких репрессий вынуждены были уехать в разные страны. Что, мнение этих людей по судьбоносным проблемам вам, господин Макей, не интересно? Жаль, что власти, которые олицетворяете и вы, Владимир Владимирович, считают их врагами народа. Но в истории подобное встречалось. И не сделать ли нужных выводов?

Вы говорите: «Готовы слушать и слышать». Где, господин министр? В следственном изоляторе, в тюрьме, на допросе?

Без сомнения, каждому из нас хотелось бы жить в такой Беларуси, о которой говорит Владимир Макей. Но, к сожалению, пока она существует только в речах министра иностранных дел для внешней презентации.

Публикация из № 6 газеты «Народная Воля»

**www.nv-online.info**

РАСІЯ

# КРЕМЛЬ В ОВЕЧЬЕЙ ШКУРЕ

**Всё большую актуальность вновь приобретает анекдот времен гонки вооружений. Леонид Брежнев выступает в ООН и говорит: «Нам нужен мир». А потом добавляет: «Желательно весь». Примерно так сегодня выглядят внешнеполитические инициативы России.**



Кремлевские пропагандисты пытаются натянуть на медведя овечью шкуру. РИА Новости в статье «Коллективная опасность: соседи России — под ударом Запада» пишут:

*«Трупы на опустевших улицах, сожженные здания и автомобили, хаос, разбой — именно в такие витрины американские партнеры планируют превращать бывшие республики СССР. В ближайших планах наших американских партнеров — развалить абсолютно все анклавы цивилизации, еще сохранившиеся на окраинах бывшего СССР».*

Ни единого доказательства существования этих темных планов по традиции не приводится. Зато на контрасте малюется «светлый образ»:

*«Это русские заинтересованы в том, чтобы вдоль их границ цвели сто цветов и мирно жили сильные и независимые государства. Несмотря на все легенды и мифы национальных окраин, именно Россия веками несла цивилизацию в эти богом забытые уголки Земли. И только она заинтересована сегодня в том, чтобы обеспечивать их безопасное развитие. Для наших западных партнеров все это просто недогосударства».*

О да, так «несла цивилизацию» (одни сталинские репрессии чего стоят), что многие «осчастливленные» при первой возможности стали дистанцироваться от России и искать счастья в Евросоюзе или где-нибудь еще. И это неудивительно: ведь даже в цитируемом абзаце сквозит имперское высокомерие по отношению к соседям: «национальные окраины», «богом забытые уголки Земли»!

Кто считает Беларусь, Украину и далее по списку «недогосударствами» вполне очевидно из высказываний высшего российского руководства. *«Западным партнерам» пытаются приписать сказанное как раз Владимиром Путиным:* ***«Украина — это даже не государство!»***

Да и само РИА Новости в другой статье пишет:

*«Восстановление геополитического контроля России над постсоветским пространством действительно произойдет — можно называть это возрождением СССР, мы же будем говорить о строительстве Евразийского союза... Потому что восстановление российского геополитического пространства (не говоря уже о возвращении Украины) — это не прихоть Путина и не гегемонистские замашки Москвы, а восстановление естественного хода отечественной истории. Мы ничего ни у кого не забираем, мы лишь восстанавливаем временно утраченное».*

Овечья шкура быстро треснула по шву и из-под неё проступили хорошо знакомые очертания хищника. Все постсоветские государства, по версии агентства, это не более, чем «временно утраченное российское геополитическое пространство». С таким отношением стоит ли удивляться, что соседи смотрят на Кремль, как минимум, настороженно. Испортить, если не навсегда, то очень надолго, отношения с Украиной – это надо было умудриться. И сейчас, конечно, можно бахвалиться о её возвращении на бумаге, однако на практике миссия выглядит невыполнимой.

Остаются, конечно, чисто силовые методы. Но как они стыкуются с образом «миротворца»? Оказывается, легко – даже в рамках одной статьи.

*«Москва три десятилетия стремится к снижению военной напряженности в Европе и в мире, – утверждает Спутник-Беларусь. – Вашингтон 30 лет безрассудно подталкивает Североатлантический альянс к расширению на восток и военному освоению постсоветского пространства, включая Украину. На этом историческом фоне постоянный представитель США при НАТО Джулианна Смит 10 января заявила: «Россия, по сути, была главной угрозой европейской безопасности в последние два десятилетия». Не пора ли вызывать «санитаров» из ведомства Сергея Шойгу?*

*РФ оставляет за собой суверенное право на односторонние военные меры для защиты национальной безопасности».*

«Снижение военной напряженности» посредством «односторонних военных мер» – неплохо, да? Откусить Крым у Украины и потом деланно возмущаться, что Россию считают главной угрозой европейской безопасности? Рядиться в тогу миротворца и грозить отправкой своих военных к постпреду США при НАТО? Тут «санитары» нужны, возможно, тому, у кого всё это умещается в одной голове и заметке.

А вот прекрасный пример, когда цели и задачи формулируются без обиняков и условностей. Телеграм-канал Россия – не Европа требует:

*«Россия должна ликвидировать опасность включения Украины в НАТО «операцией принуждения к миру», «благо» ВСУ постоянно стреляют по Донбассу, где проживает уже 600 тыс. россиян, гибнут люди. На этот раз нельзя остановиться, как остановились в 2008 г. в Грузии. Пункт остановки – венгерская и польская границы. Никаких планов на отказ от Западной Украины не должно быть».*

Тут волк уже даже не пытается маскироваться. Можно, конечно, попытаться списать агрессивные устремления на частное мнение автора канала. Но российские государственные мужи выражаются не менее агрессивно. В январе вице-спикер Госдумы Петр Толстой заявил, что Россия должна быть восстановлена в границах Российской империи. Причем речь шла не только об Украине, но и о Финляндии!

Но результат «боевых действий», которые ведут «батальоны политруков» – обратный. Нейтральная Финляндия задумалась о вступлении в НАТО. Да и другие государства перспектива войти в состав империи не соблазняет.

«Кремлевские соловьи» оказывают своим хозяевам медвежью услугу. Такая пропаганда не способна овладеть ни умами, ни сердцами.

**Михаил Брошин**

**gazetaby.info**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 28.1.2022 у 17.25**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.